



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальн...

24 чэрвеня 2016 года №26 (1104)




**Змяненні раскладу цягнікоў на 7 ліпеня на Ліду**

старонка 21

**КУДЫ перанясуць калгасны рынак у Маладзечне**

старонка 3

**Саліст "Песняроў": "мне ежа сніцца начамі"**

старонка 22



**1921 год**
1 420 жыхароў
з іх 1 000 яўрэяў

**Сёння**
ў мястэчку жыве 395 чалавек

# Гарадок – месца, куды мы прыязджаем паслухаць цішыню

старонка 6

Фота Наталлі ТУР.

# Нарачанец уручыў прыз лепшаму гульцу на матчы Еўра-2016

МЯДЗЕЛ

**Настаўнік Леанід Краўчонак з курортнага пасёлка Нарач (Купа) пабываў на чэмпіянаце Еўропы па футболе ў Францыі.**

Ён не толькі акунуўся ў атмасферу футбольнага свята, а і ўручыў прыз лепшаму гульцу матча Расія-Славакія. Упершыню ў гісторыі такі прыз на чэмпіянаце Еўропы ўручаў заўзятар з Беларусі.

Леанід дзеліцца галоўным уражаннем ад чэмпіянату, расказвае, як паводзілі сябе фанаты на матчы і пасля яго і каго з беларусаў яны ведаюць.

### Паехаў на чэмпіянат за перамогу ў конкурсе

"РГ" паведамляла, што Леанід заслужыў пуцёўку на матч чэмпіянату перамогай у творчым конкурсе "Мабыць, лепшы заўзятар Беларусі". У ім ён абышоў каля чатырохсот заўзятараў з нашай краіны.

– Словамі не перадаць тыя пачуцці, якія зведаў пасля перамогі ў конкурсе. Здзейснілася даўняя мара наведаць галоўны еўрапейскі футбольны форум. І не проста наведаць, а ўручыць прыз Man of the match галоўнай зорцы матча, – дзеліцца ён.

Трапіў нарачанец на матч паміж камандамі Расіі і Славакіі, які прайшоў у Лілі 15 чэрвеня. Гульня завяршылася перамогай славакаў 2:1. Найлепшым гульцом матча прызналі капітана зборнай Славакіі **Марэка Хамшыка**, які вызначыўся выніковай перадачай і забіў гол. Яму і ўручыў прыз Леанід Краўчонак.

– На прэс-канферэнцыі пасля матча галоўны трэнер славакаў **Ян Козак** адзначыў, што Гамшык ужо даўно заслужыў сваёй гульнёй права выступаць за які-небудзь вялікі клуб – цяпер ён гуляе за італьянскі "Напалі".

Хаця першапачаткова Леанід спадзяваўся, што лепшым гульцом сустрэчы назавуць расійскага футбаліста:

– Але сапраўдныя футбольныя заўзятары пагодзяцца, што славакі больш заслужылі перамогу. Асабіста я лічу, што сустрэчу прайграў галоўны трэнер расійскай зборнай. Ужо пасля першай гульні з англічанамі стала зразумела, што ні **Галавін**, ні **Нойштэдтэр** не спраўляюцца з пастаўленымі перад імі задачамі па арганізацыі гульні ў цэнтры поля. Ні досведу, ні адпаведнага майстэрства ім відавочна не хапае. А другі матч запар трэнер выстаўляў іх на гэтыя ключавыя пазіцыі.

### Як уручаў прыз

За гадзіну да пачатку матча нарачанца выклікалі на поле і сфатаграфавалі з прызам лепшаму гульцу.

– Стадыён "П'ер Маруа" ўразіў, асабліва калі самому давялося выйсці на газон, – прыгадвае. – Уручэнне галоўнай узнагароды адбылося ў падтрыбунным памяшканні праз дзесяць хвілін пасля заканчэння гульні. У адказ на маё віншаванне Марэк Гамшык сказаў, што ён больш задаволены канчатковым вынікам, а не тым, што ён забіў такі прыгожы гол.




Фота забяспечанае Леанідам КРАЎЧОНКАМ.

Леанід Краўчонак (справа) разам з лепшым гульцом матча Марэкам Хамшыкам (у цэнтры).

### Беспарадкаў не было

Расійскіх заўзятараў на стадыёне было шмат, але больш арганізаванымі выглядалі прыхільнікі славацкай зборнай.

– Іх падтрымка была больш адчувальнай. Ніякіх беспарадкаў на стадыёне на гэты раз не было, гулялі ўсё ж дзве славянскія каманды, – расказвае Леанід. – Галоўнае ўражанне ад чэмпіянату – гэта пачуццё прыналежнасці, асабістага дачынення да гэтага футбольнага свята. Гатэль, у якім жыў, знаходзіцца ў трохстах метрах ад фанзоны. Два вечары правёў там, дзе насупраць вялікага экрана збіраліся тысячы футбольных заўзятараў з розных краін Еўропы для сумеснага прагляду вячэрніх матчаў. Ніякіх боек і дэбошаў там не бачыў. Наадварот, адносіны паміж балельшчыкамі былі вельмі сяброўскія. Калі гаварыў, што прыехаў з Беларусі, паказвалі вялікі палец і гучалі два прозвішчы: Домрачава і Азаранка. На жаль, аніводнага беларускага футбаліста ніхто назваць не мог.

**– Якія фанаты з тых, каго бачылі, уразілі найбольш?**

– Больш за ўсіх – славацкія фанаты, вельмі ж ужо шчыра яны радаваліся перамозе сваёй каманды. Увечары яны запоўнілі цэнтральную вуліцу і да поўначы распявалі песні, радаваліся перамозе. Яшчэ здзівілі заўзятары зборнай Францыі. Калі падчас матча з албанцамі на экране паказалі прэзідэнта Францыі, па ўсё тэрыторыі фанзоны пранёсся неадабральны гул. Не ведаў, што французы так не любяць свайго прэзідэнта.

Пасля візіту на чэмпіянат Леаніду засталося толькі марыць і спадзявацца, каб калісьці ў спісе з дваццаці чатырох лепшых камандаў Еўропы была і родная беларуская.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

# Калгасны рынак перанясуць на “Спадарожнік”

МАЛАДЗЕЧНА

**– Але калі, пакуль пра тэрміны гаварыць рана,**

– адказала Святлана Хрусталёва, начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама.

Адной з прычын адтэрміноўкі з’яўляецца тое, што цяпер цяжка сказаць пра тэрміны, у якія ў гандлёвым цэнтры “Спадарожнік” завершыцца рэканструкцыя.

– Пра тое, што наспела неабходнасць прыбіраць з цэнтра горада рынак, мы гаварылі даўно, – кажа Святлана Хрусталёва. – Сёлета бюджэтам выдзеленыя грошы на карэкціроўку генеральнага плана горада. У сённяшнім плане на месцы рынку прадугледжаны адзін гандлёвы аб’ект, але паколькі гандлёвых аб’ектаў у нас і так “мама, не гаруй”, то мы спадзяёмся, што ў “Мінскграмадзянпраекце” нам дазволяць унесці карэкціроўку, і на месцы рынку вырасце жылы дом, дзе на першым паверсе будуць і магазіны, і цырульні.

Акрамя пераносу рынку, у змененым генплане горада прадугледжаныя і іншыя пытанні і магчымасці развіцця горада.

Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



Наведнікам рынку райспажыўтаварыства давядзецца прызвычаіцца да новага месца для пакупак.

Фота з архіва “РГ”.

## На “Зялёнай карце” цяпер ёсць усе гарады краіны

Жыхар любога горада з лёгкасцю знойдзе бліжэйшыя да свайго дома пункты збору небяспечных і перапрацоўчых адходаў.

Стваральнікі праекта адзначаюць, што калі для абласных цэнтраў і вялікіх гарадоў гэта не так актуальна, то для невялікіх населеных пунктаў пазбавіцца ад адходаў правільна і бяспечна – праблема.

– У гэтым годзе “Зялёную карту” чакае поўнае абнаўленне – ад сайта да канцэпцыі, – адзначае каардынатар праекта **Марыя Торба**. – У бліжэйшы час на карце будуць напаўняцца інфармацыяй новыя пласты.

Цэнтр экалагічных рашэнняў правёў работы па далейшым развіцці сайта “Зялёная карта” як вядучага экалагічнага інфармацыйнага рэсурсу, які прапануе практычную інфармацыю па розных напрамках экалагічна дружалюбнага ладу жыцця ў Беларусі.

У выніку работ сайт папоўніўся трыма новымі пластамі: “Экалагічныя ініцыятывы”, “Аднаўляльная энергетыка”, “Прыродныя тэрыторыі”. Мабыць, самае галоўнае – пашырылі геаграфію прадстаўленых на карце населеных пунктаў. Інфармацыйныя пласты “Другасныя рэсурсы”, “Небяспечныя адходы”, “Рэчы”, “Смецесартавальная і перапрацоўчая станцыі” зробленыя для ўсіх гарадоў Беларусі, дзе існуюць падобныя пункты.

У бліжэйшы час на карце з’явяцца месцы, дзе ўсталяваныя крыніцы аднаўляльнай энергетыкі, будуць пазначаныя ўнікальныя прыродныя куткі, а таксама “зялёныя” арганізацыі і ініцыятывы, у якіх можна атрымаць важную экалагічную інфармацыю.

Картай вы можаце карыстацца на сайце greenmap.by.

**Паводле інфармацыі greenmap.by.**

## Фэст “Камарова – кола дзён” збірае гасцей у суботу

МЯДЗЕЛ

Свята народнай культуры і рамяства адзначаць сёлета ў суботу, 25 чэрвеня.

Пра гэта паведамілі ў мядзельскім раённым арганізацыйна-метадычным цэнтры.

Пачатак мерапрыемства а 10 гадзіне.

Гасцей чакаюць майстры традыцыйных рамёстваў з розных куткоў Беларусі.

Святочны настрой умацуюць музыкі: ансамблі “Радаўніца” і “Правінцыя” з Мядзельшчыны, народны хор “Жыцень” з Мінска і іншыя.

**Аддзел інфармацыі.**

### ЛІЧБА НУМАРА

**25,8%** столькі беларусаў маюць лішнюю вагу

Самы грузны рэгіён – Міншчына. Лішняя вага ў **29,8%** жыхароў. Самыя стройныя – жыхары сталіцы. З іх у **22,7%** праблемы з фігурай.

Паводле БелТа.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.06 | 23.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 20 047,00 | **19 759,00** |
| Еўра | 22 488,00 | **22 264,00** |
| Злоты | 5 060,84 | **5 096,49** |
| Расійскі рубель | 304,00 | **310,07** |
| Грыўня | 802,85 | **793,17** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 22.06** | | |
| Еўра | 22350/22600 | **22100/22400** |
| Долар ЗША | 19950/20100 | **19650/19830** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 15.06 | 22.06 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 143 800 | **143 800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 800 | **31 500** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 800 | **41 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **132 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | **15 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 14 500 | **14 500** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 38 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 16 500 | **16 500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 12 000 | **11 900** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 80 000 | **84 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 900 | **8 900** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 14 500 | **12 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 43 900 | **45 000** |
| Лімоны, 1 кг | 45 000 | **44 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 23 500 | **24 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 500 | **24 900** |
| Нектарыны, 1 кг | 45 000 | **45 000** |
| Абрыкосы, 1 кг | 39 900 | **40 000** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **29 000** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 28 500 | **27 000** |
| Агуркі, 1 кг | 12 900 | **7 900** |
| Перац, 1 кг | 55 000 | **50 000** |
| Кавун, 1 кг | - | **20 000** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 14 900 | **12 900** |
| Клубніцы, 1 кг | 35 000 | **28 000** |
| Чарэшні, 1 кг | 55 000 | **45 000** |
| Вінаград, 1 кг | 40 000 | **49 900** |
| Бананы, 1 кг | 22 900 | **20 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 500 | **14 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 13 900 | **12 900** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Маладзечанская транспартная міліцыя правярае пешаходаў

Ад 21 да 24 чэрвеня Маладзечанская транспартная міліцыя праводзіць спецыяльнае мерапрыемства "Пасажыр".

**Каб не стаць ахвярай злачынства, выконвайце простыя правілы:**

– каштоўныя рэчы трымайце пры сабе,

– не пакідайце іх без нагляду,

– не перадавайце незнаёмым,

– не давайце незнаёмым мабільны тэлефон,

– не спіце ў цягніках і залах чакання, асабліва калі маеце пры сабе грошы ці каштоўныя рэчы,

– не варта дэманстраваць, куды вы кладзяце мабільны тэлефон або грошы,

– на банкаўскай карце не пазначайце пін-код,

– калі выходзіце з цягніка, звярніце ўвагу, ці прыхапілі вы ўсе свае рэчы,

– у цягніку і на вакзале не варта слухаць музыку праз навушнікі,

– не піце спіртныя напоі на чыгунцы.

**Будзьце пільныя, прымайце меры уласнай і маёмаснай бяспекі.**

Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ,
інспектар прапаганды маладзечанскага АУСТ.

## На Мястры перакулілася лодка – выратавалі двух рыбакоў

МЯДЗЕЛ

Пра здарэнне паведамілі пасля васьмі гадзін раніцы 14 чэрвеня. Рыбакі-відавочцы патэлефанавалі, што на возеры Мястра перакулілася лодка і чутны крыкі аб дапамозе.

Адбывалася гэта далёка ад берага – у раёне урочышча "Вароты" непадалёку ад вёскі Качаргі.

На месца выехала дзяжурная змена выратавальнай станцыі "Мядзел". Два рыбакі трымаліся за перакуленую лодку, былі яны ў выратавальных камізэльках.

Выратавальнікі паднялі з вады на катар 62-гадовых мядзяльчан і іх маёмасць, даставілі на бераг і потым дадому. Медыцынская дапамога мужчынам не спатрэбілася.

– Гэта выпадак – яшчэ адзін напамін пра неабходнасць карыстання выратавальнымі камізэлькамі, – кажа начальнік выратавальнай станцыі "Мядзел" **Дзмітры Мялешка**. – Бо без іх наўрад ці рыбакам удалося б застацца ў жывых.



## Гарэў дом – вяскоўцы вывелі з яго 88-гадовую бабулю

ВІЛЕЙКА

Пасля 10 гадзін вечара 15 чэрвеня выратавальнікам паведамілі, што гарыць дом у вёсцы Ілья.

Вяскоўцы праязджалі на машыне і заўважылі дым з-пад даху дома.

Людзі забеглі ў дом, вывелі адтуль 88-гадовую пенсіянерку – яна яшчэ не заўважыла, што на паддашку нешта гарыць. Выклікалі выратавальнікаў, сталі выносіць маёмасць і спрабавалі тушыць.

Па прыездзе выратавальнікаў дом гарэў адкрытым полымем. Яго патушылі. У выніку пажару людзі не пацярпелі. Але знішчаны дах, выгарала веранда і адзін пакой дома. Яшчэ адзін пакой закураны.

Прычына пажару высвятляецца. Пра гэта расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Аддзел інфармацыі.

## "Аўдзі" трапіла пад цягнік: кіроўца збег, пасажыр – у рэанімацыі

СМАРГОНЬ

17 чэрвеня каля 01:40 на чыгуначным пераездзе на вуліцы Гагарына, абсталяваным святлагукавой сігналізацыяй, Аўдзі-А8 трапіла пад грузавы цягнік. Пра гэта паведамілі ў МНС.

У момант аварыі ў машыне знаходзіліся кіроўца і пасажыр. Мужчына, які кіраваў "Аўдзі", з месца аварыі ўцёк. Пасажыр у цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу.

У выніку ДТЗ аўтамабіль атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні. У грузавога цягніка пашкоджана пярэдняя частка, адбойнік. Чыгуначнае палатно не пашкоджанае, затрымка руху дадзенага цягніка склала 3 гадзіны 49 хвілін, затрымкі руху іншых цягнікоў не было.

Паводле auto.tut.by

# Адпачывалі кампаніяй побач з сажалкамі – не далічыліся калегі

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ


Фота youtube.com

Калі вяртаецеся з адпачынку на вадзе, упэўніцеся, што ўсе вашы сябры побач. Будзьце пільныя падчас купання.

Ад 13 да 19 чэрвеня патанулі тры жыхары рэгіёна.

Першае здарэнне адбылося 14 чэрвеня на беразе Вілейскага вадасховішча.

26-гадовы мужчына разам з сябрамі адзначаў дзень нараджэння. У аднаго чалавека быў гідрацыкл. Іменіннік папрасіў пракаціцца.

Гаспадар ведаў, што сябар не мае досведу, таму паехаў з ім у якасці пасажыра. Падчас рэзкага манеўру мужчыны перакуліся.

Але на руцэ кіроўцы быў замацаваны ключ запальвання, таму гідрацыкл не заглух і не сплыў з месца здарэння. Мужчыны залезлі на гідрацыкл, бо ён не рухаўся, і працягнулі прагулку.

Падчас рэзкага манеўру зноў аказаліся ў вадзе. На гэты раз ключ застаўся ў запальванні, рухавік гідрацыкла працягваў працаваць. Пасажырам не ўдалося злавіць гідрацыкл, вырашылі плысці. Аднак сіл у аднаго не хапіла, каб даплысці да берага.

### Вырашыў прагуляцца па беразе, упаў і патануў

17 чэрвеня на забароненых для купання кар'ерах побач з вёскай Міхневічы на Смаргоншчыне адпачывала кампанія. Выпівалі, весяліліся, аднаго з маладзёнаў усё цягнула ў ваду. На наступны дзень цела 17-гадовага юнака знайшлі у 20 метрах ад берага.

18 чэрвеня кампанія калег адпачывала ў вёсцы Белева на Маладзечаншчыне побач з сажалкамі. Вечарам, калі збіраліся дамоў, не знайшлі аднаго чалавека, вырашылі, што той паехаў у горад раней. На раніцу пачалі шукаць зніклага і знайшлі паўраспранутае цела ў вадзе, недалёка ад берага.

Па папярэдняй версіі, 46-гадовы мужчына пайшоў прагуляцца па беразе, упаў і патануў. Са слоў калег, у яго былі праблемы з сэрцам.

Таварыства выратавання на водах нагадвае, што нельга купацца ў забароненых месцах, у нецвярозым стане. Выконвайце меры перасцярогі падчас купання.

Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ,
кіраўнік раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах.

## У Вілейцы раварыст не саступіў дарогу "Аўдзі"

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

Каля пяці гадзін вечара 15 чэрвеня ў Вілейцы 21-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі Аўдзі-100 у напрамку вуліцы Валынца.

Машына наехала на 54-гадовага раварыста, мясцовага жыхара. Той выехаў з другараднай дарогі на галоўную – не саступіў дарогу кіроўцы.

Раварыст атрымаў удары галавы, але шпіталізацыя яму не спатрэбілася. Мужчына знаходзіўся ў нецвярозым стане.

У той жа дзень каля 10 гадзін вечара ў Мядзельскім раёне 56-гадовая жанчына ехала на аўтамабілі "Опель-Кадэт" у напрамку вёскі Занарач. Яна не справілася з кіраваннем, машына з'ехала ў кювет і стукнулася ў прыдарожнае дрэва.

У выніку васьмігадовы хлопчык атрымаў траўмы, яго даставілі ў бальніцу. Хлопчык сядзеў на пярэднім сядзенні аўтамабіля, быў прышпілены рамянём бяспекі, але без дзіцячага крэсельца.

Згодна з Правіламі дарожнага руху, перавозка дзяцей да 12 гадоў на пярэднім сядзенні забароненая, дазволеная ў тым выпадку, калі дзіця перавозіцца ў спецыяльных прыладах.

## Кіроўца "Опеля" збіў раварыста

ВІЛЕЙКА

У нядзелю, 19 чэрвеня, здарылася аварыя каля 14 гадзін.

26-гадовы кіроўца аўто "Опель-Амега" ехаў па вуліцы Партызанскай у бок вуліцы 1 Мая. Ён наехаў на раварыста, што выехаў з другараднай дарогі.

У выніку здарэння 45-гадовы раварыст з цяжкімі траўмамі шпіталізаваны ў рэанімацыю.

Дзяржаўтаінспектарам вядома, што пацярпелы быў нецвярозы.

Паводле УДАІ УУС Мінаблвыканкама.

## Шукаюць зніклага 28-гадовага маладзёна

МЯДЗЕЛ

Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта шукае **Дзяніса Аляксандравіча Матошку**.

Ён нарадзіўся 25 кастрычніка 1987 года ў Маладзечне. Жыве ў вёсцы Стругалапы Мядзельскага раёна.

29 красавіка ён выйшаў з дома ў вёсцы Слукі каля 23 гадзін. З таго часу нічога невядома пра яго месцазнаходжанне.

На выгляд знікламу 28-30 год. Рост каля 180, хударлявы. Смуглы, шэрыя вочы, прамыя кароткія цёмна-русыя валасы. Звонкі голас, невыразнае маўленне. Гаворыць хутка. 40-41 памер нагі.

Мае шрам на левай руцэ каля 2 сантыметраў і сляды ад шрамаў, таксама на правым брыве каля 0,5 сантыметра. На згіне левай рукі татуіроўка ў выглядзе завесы, на грудзях – у выглядзе твару, а на левай назе – у выглядзе змяі.

Быў апрануты ў цёмна-сінія джынсы, цёмную байку, чорныя чаравікі.

Пры сабе меў мабільны тэлефон KENEKSI P-1 у чорным корпусе. У тэлефоне сім-карта МТС з нумарам **(+37529) 761-61-86.**

Калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне Дзяніса Аляксандравіча, паведаміце па нумарах: **(801797) 55-8-64, 55-4-71, 102.**


Зніклы Дзяніс Матошка.

Паводле паведамлення Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта.

# “Птушкі з-пад Ашмянаў вызначылі мой лёс”

**Ураджэнец Ашмяншчыны Людвік Тамялойць – вядомы ў Еўропе знаўца птушак і адзін з заснавальнікаў сучаснай польскай арніталогіі. Пра крылатых ён можа распавядаць гадзінамі.**



Кадр з фільма 1963 года “Птушкі” Альфрэда Хічкока. Карціна лічыцца шэдэўрам фантастычнага трылера.

Фота bestin.ua.

На мінулым тыдні навукоўца ўпершыню за апошнія 70 гадоў наведаў месца, якое натхніла яго на вывучэнне птушак, – вёску Міхалконі на Ашмяншчыне.

### “У Мінску буду шукаць варон”

Пан Людвік займаецца птушкамі ўсё жыццё. Ён з'яўляецца сябрам польскага Дзяржаўнага камітэта аховы прыроды і адным з арганізатараў сусветнага арніталагічнага кангрэса ў Новай Зеландыі.

У родным Уроцлаве, які месціцца на захадзе Польшчы, навукоўца ўжо цягам 40 гадоў назірае за крылатымі жыхарамі гарадскіх паркаў. Таксама пад пільным вокам пана Людвіка – гарадскі парк у горадзе Лягніца, што недалёка ад Уроцлава. Тут арнітолаг ведае кожную птушыную пару і кожнае гняздо. А таксама колькасць драпежнікаў, якія ласуюцца птушынымі яйкамі, – ад варон да куніц і вавёрак. Сорак гадоў назіранняў – гэта прыкладна 20-40 пакаленняў птушак.

Пан Людвік упэўнены, што гарадскія паркі – унікальнае месца для назірання за птушкамі.

– Кожны гарадскі парк – гэта своеасаблівы востраў, – кажа навукоўца. – Па-першае, парк абмежаваны горадам. Па-другое, тут амаль няма драпежнікаў, якія палююць на птушак і яйкі. Калі ў дзікай прыродзе птушка мае каля 30 патэнцыйных ворагаў, то ў парку – максімум 5-7. Да таго ж птушкі ў парках амаль не маюць канкурэнцыі і ізаляваныя ў генетычным плане – сабе ў пару яны выбіраюць самца ці самку з таго ж парку.

Не дзіва, што ў Беларусі пана Людвіка таксама ў першую чаргу цікавіць парк.

– Хачу праверыць, ці пацвердзяцца тут тыя высновы, якія я зрабіў пасля назірання за польскімі птушкамі, – кажа арнітолаг. – У першую чаргу буду шукаць у Мінску варон.

### Адкуль вароны з'явіліся ў вялікіх гарадах?

Вароны ніколі не былі гарадскімі птушкамі і жылі на палях за горадам. Але цяпер яны частыя жыхары мегаполісаў. Пан Людвік тлумачыць, што віной гэтаму… заапаркі.

– Гэта тэорыя многіх арнітолагаў, і я бачу яе пацвярджэнне на ўласнай практыцы, – заўважае ён. – Раней вароны траплялі ў гарады толькі ў клетках і жылі ў заапарках. Пасля птушкі з прыгарада пачыналі прылятаць у заапарк, бо бачылі там сваіх патэнцыйных партнёраў. Часцей за ўсё першая варонiна пара ў гарадах была такой: самка з прыгарада, а самец – уцякач з заапарку. Ці наадварот.

Таму вароны ёсць і ў Лондане, і ў Берліне, і ў Маскве – паўсюль, дзе былі і ёсць заапаркі.

Па словах навукоўцы, у Польшчы вароны сустракаюцца толькі ў двух гарадах: Уроцлаве і Варшаве, дзе знаходзяцца найбуйнейшыя заапаркі. Часцей варон можна сустрэць у прыгарадах, але ніколі – у гарадах.

Да таго ж пан Людвік развейвае стэрэатыпы наконт іх агрэсіўных паводзін.

– Не думайце, што вароны шалёныя, – кажа арнітолаг. – Яны не проста так чапляюцца да нас, а бароняць сваіх птушанят. Часам мы іх не бачым, але яны недзе ў кустах ці траве паблізу.

Пан Людвік падкрэслівае, што птушкі не будуць атакаваць чалавека без прычыны.

– Калі Альфрэд Хічкок здымаў свой знакаміты фільм “Птушкі”, тады яшчэ не было спецэфектаў. Таму каб зняць кадры, дзе птушкі кідаюцца на людзей, акцёраў ставілі ў месцы масавага гнездавання, каб у птушак спрацаваў інстынкт, – тлумачыць навукоўца.

### “Выехаў з Айчыны, а прыехаў на Бацькаўшчыну”

Людвік Тамялойць не быў у тых мясцінах, дзе нарадзіўся, цэлых 70 гадоў. Цяпер, калі беларуская арганізацыя “Ахова птушак Бацькаўшчыны” запрасіла навукоўца ў Мінск, ён змог наведаць і Ашмяншчыну. Пра свае ўражанні пан



Арнітолаг Людвік Тамялойць. Фота fakty.lca.pl.

> **Ад нашай хаты нічога не засталося. Але я пазнаў дубы – яны так і засталіся стаяць, як у дзяцінстве. І на сэрцы адразу вельмі цёпла стала, як іх пабачыў.**

Людвік распавёў карэспандэнту “РГ”.

**– Як доўга вы пражылі ў Міхалконях?**

– Шэсць гадоў. У 1945 годзе мая сям'я пераехалі ў тагачасную Усходнюю Прусію. Калі глядзець па бабулях, то ў мяне палова з іх беларускі, палова – полькі. Так што вось такі я еўрапейскі дварняк.

**– Ці праўда, што менавіта на Ашмяншчыне вы ўпершыню зацікавіліся птушкамі?**

– Так, увогуле ў мяне ў сям'і ніхто асабліва не цікавіўся жывёламі. Як цяпер памятаю: мне было пяць гадоў і я ўпершыню пабачыў пад кустом палавінку яечнай шкарлупіны. Палез на дрэва і пабачыў гэтых “маленькіх дыназаўраў”, як я іх тады назваў. Гэта было гняздо вехіра, вялікага голуба. А праз дзесяткі гадоў я абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную вехіру! У той жа вёсцы я пачаў сачыць за птушкамі: знаходзіў гнёзды, лічыў яйкі. Гэта быў першы кантакт са светам птушак.

**– Якія ўражанні пакінулі ў вас мясціны дзяцінства цяпер?**

– Шмат што змянілася. Відаць, што жыццё там ужо не такое актыўнае. Ад нашай хаты нічога не засталося. Але я пазнаў дубы – яны так і засталіся стаяць, як у дзяцінстве. І на сэрцы адразу вельмі цёпла стала, як іх пабачыў. Калі мы яшчэ стаялі на польска-беларускай мяжы, я смяяўся: выязджаю з Айчыны, а прыязджаю на Бацькаўшчыну!

**– А людзей, якія б маглі памятаць вашых продкаў, сустрэлі?**

– На шчасце, давялося сустрэць тых, хто памятае маіх бабуль і бацькоў. Але я, вядома, не памятаю ніякіх твараў з тых часоў. Памятаю толькі птушак.

**– Ці плануеце ўзяцца за вывучэнне яшчэ і мясцовых крылатых?**

– Ведаеце, я ў такім узросце, калі чалавек не складае вялікіх планаў. Адзінае, што я планую – трымаць сваё здароўе ў добрым стане. Калі атрымаецца – ужо будзе добра.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**




Лагатып сімпозіуму. Малюнак забяспечаны Наталляй Чырвонцавай.

## У Маладзечне абмяркуюць праблемы выразання з паперы на сімпозіуме

МАЛАДЗЕЧНА

**24 чэрвеня на базе Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага пачынае работу VI Міжнародны сімпозіум па праблемах выразання з паперы "Мастацкае выразанне: формы і колер".**

Сімпозіум прысвечаны памяці знакамітых майстроў Беларусі **Вячаслава Дубінкі** і **Вікторыі Чырвонцавай**. Менавіта яны аднымі з першых на Беларусі пачалі займацца адраджэннем старажытнага майстэрства выцінанкі.

Навукова-практычны форум такога ўзроўню ўпершыню адбываецца на Беларусі. Удзел у ім бяруць майстры з розных куткоў Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы, Расіі.

У пасяджэннях педагагічнай і гісторыка-рэгіянальных секцый госці і ўдзельнікі сімпозіума пазнаёмяцца з дакладамі, якія адлюструюць развіццё майстэрства выцінанкі.

Падчас работы сімпозіума можна будзе наведаць наступныя выставы выцінанак:

- часовая выстава ўдзельнікаў сімпозіума і выстава "Маладзечанская школа выцінанкі" (выставачная зала музкаледжа, адкрыццё 24 чэрвеня ў 17:00);
- выстава выцінанншчыка Вячаслава Дубінкі (Палац культуры, адкрыццё 26 чэрвеня ў 11:00);
- выстава "Пялёсткі памяці", прысвечаная памяці народнага майстра Рэспублікі Беларусь Вікторыі Чырвонцавай (Мінскі абласны краязнаўчы музей, адкрыццё 26 чэрвеня ў 12:00);

Напрыканцы сімпозіума прапануем паўдзельнічаць у майстар-класах па выразанні з паперы (26 чэрвеня, ад 14:30, выставачная зала музычнага каледжа імя Агінскага).

Шчыра запрашаем да ўдзелу ўсіх, хто цікавіцца народнай культурай.

Наталля ЧЫРВОНЦАВА.

## Энтузіяст зрабіў віртуальны Крэўскі замак у фармаце 360°

СМАРГОНЬ

Валанцёр пад псеўданімам **Ахрэм Белабровік** удасканальвае свой праект па аднаўленні Крэўскага замка ў віртуальнай прасторы.

Ён спраектаваў тур з некалькіх 3D-панарам па старажытным замку.

Дастаткова адкрыць яго ў браўзеры на камп'ютары або ў дадатку YouTube.

Каб прагледзець кожную з панарам, стаўце на паўзу і, націснуўшы і ўтрымліваючы левую кнопку мышы, рухайцеся ёй па маніторы.

Рэкамендуецца праглядаць на поўны экран і ставіць найбольшую якасць. Каб знайсці спасылку, па якой зможаце ацаніць вынік працы, заходзьце на наш сайт rh.by.

Старонка праекта віртуальнага замка месціцца на сайце vkl3d.com.

Аддзел інфармацыі.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ




Ля толькі што адкрытага стэнда памятных месцаў Гарадка: мясцовая жыхарка Валянціна Мяцеліца (злева) і аўтар стэнда Аляксай Парошын фатаграфуюцца на памяць. Фота Наталлі ТУР.

# Гарадок – месца, куды мы прыязджаем паслухаць цішыню

МАЛАДЗЕЧНА

**Трэці міжнародны адкрыты форум "Гарадок і яго суседзі: традыцыя, культура і памяць аб трагедыі", прысвечаны 75-м угодкам пачатку Вялікай Айчыннай вайны, адбыўся 22 чэрвеня.**

Дзень быў насычаны сустрэчамі, гасцямі і мерапрыемствамі.

Удзельнікі суполкі "Сябры Гарадка", прадстаўнікі ўладаў, Гістарычная майстэрня Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Рау, Саюз беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і суполак, міжнародны фонд "Узаемаразуменне" трэці год запар 22 чэрвеня знаходзяць час, каб прыехаць у гэтае, цяпер невялічкае мястэчка, каб успомніць, аддаць даніну памяці тым, хто калісьці тут жыў і каго ў адзін дзень, 11 ліпеня 1942 года, прывялі на плошчу Гарадка, каб ужо ніколі не вярнуцца дадому.

Форум, што праходзіць у Гарадку, заўсёды насычаны на падзеі. Гэты год таксама не стаў выключэннем.

Пачалася раніца з урачыстага мітынгу, затым госці ўсклалі кветкі да помніка загінулым у гады вайны, да помніка ахвярам гарадоцкага гета.

**Адметнай падзеяй у сёлетнім форуме стала адкрыццё Знака памяці памятных месцаў Гарадка.**

Зрабілі і адкрылі яе намаганнямі суполкі "Сябры Гарадка", якія доўгі час займаюцца тым, што адшукваюць фотаздымкі, дакументы.

На стэндзе размясцілася карта з 16 славутасцямі Гарадка, якія можна пабачыць на сваe вочы.

Цікава было назіраць за тым, як да стэнда падышла мясцовая жыхарка **Валянціна Мяцеліца** і, паказваючы пальцам на стары даваенны фотаздымак, з лёгкасцю называла тых, хто на ім сфатаграфаваны.

Прадстаўніца адукацыйных праграм Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра **імя Ёханэса Рау Беатрыс Петцольд** распавяла "Рэгіянальнай газеце", што па-асабліваму ставіцца да гэтага мястэчка Гарадок.

– Вы, беларусы, прывыклі, што ў вас шмат такіх прыгожых гістарычных месцаў, а для мяне тут усё новае, усё незвычайнае. Я ўзгадваю, як мне паказалі дом, у якім усё засталося ў першапачатковым стане: тыя ж пакоі, дзверы, столь. Дзіўна. Яшчэ мяне ўзрушыла гісторыя, якую таксама расказалі тут, у Гарадку. Пасля вайны ў мястэчка вярнуўся стары яўрэй, якога не знішчылі ў гады вайны, таму што ён быў у ГУЛАГу. Дажыў ён свой век тут адзін. А як памёр, узнікла пытанне, як хаваць. Яўрэйскія могілкі закрытыя. Таму тут у Гарадку на праваслаўных могілках ёсць адзіная яўрэйская магіла – магіла гэтага апошняга яўрэя з Гарадка.

Затым госці садзілі Алею памяці. Адзін з клёнаў садзілі архітэктар **Галіна Левіна** і галоўны рабін Беларусі **Георгі Абрамовіч**.

Георгі Абрамовіч прызнаўся, што садзіць ужо сваё 27 дрэва ў жыцці.

У сваёй прадмове ля помніка загінулым яўрэям Георгі сказаў, што адна з малітваў яўрэяў пачынаецца словамі: "Эль малера хамім", што ў перакладзе азначае: "Табе, міласэрны Божа".

**– А ці быў Бог міласэрны, калі знішчалі тысячы людзей, а ці быў ён міласэрны тады, калі знішчаліся помнікі, калі забываліся пра тую трагедыю?**

– пытаўся Георгі ля помніка, трымаючы ў руках каменьчык, каб ускласці яго да помніка.

А Галіна Левіна назвала Гарадок тым месцам, куды прыязджаюць паслухаць цішыню, і патлумачыла:

**– Гарадок – гэта адно з многіх месцаў Беларусі, дзе, на жаль, ніколі не адродзіцца яўрэйская супольнасць.**

Яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя асноўную частку насельніцтва складалі яўрэі. А яўрэі – гэта яркая фарба ў культуры Беларусі, і гэтага адмаўляць нельга.

Завяршылася ўрачыстая частка форуму праглядам кінастужак "Захавальнікі памяці", "Леанід Левін: вайна і каханне", "Трагедыя Трасцянца" і фільма "Твары Гарадка 30-х".

Трэці міжнародны форум сабраў шмат зацікаўленых гісторыяй і гістарычнай памяццю людзей.

І словы Галіны Левінай пра тое, што ўсе мы – гэта пазлы ў вялікай карціне памяці, як нельга лепш адлюстроўваюць прыналежнасць кожнага да гэтай падзеі, якая абавязкова паўторыцца праз год, 22 чэрвеня.

Наталля ТУР.

# ВІНШАВАНКА

**З 75-годдзем!**
**Рухлі**
**Галіне Іванаўне**
**з Маладзечна**

Віншуем з днём нараджэння!
Няхай не падводзіць здароўе, а кожны дзень прыносіць радасць і шчасце.

*Для нас цябе няма*
*на свеце даражэй.*
*Адна-адзіная ты ў нас,*
*як у нябёсах сонца.*
*І Бог цябе няхай*
*заўсёды беражэ,*
*І зорка шчасця свеціць*
*хай бясконца!*

**Дзеці, унукі, праўнукі.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Гольф-4, 2001 г.в, з/пакет, кандыцыянер. Прабег па РБ 3 000 км. 85 000 000 руб. Абмен. Т. (8-029) 8817064.

• ЗІЛ-130, дызель Д245, самазвал-сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.*

• Мерсэдэс С180Б, 1998 г.в, сіні металік, добры стан, 64 000 000 руб. Торг. Т. (8-029) 7578023, (8-029) 5618155.

• Ніва, 2002 год выпуску, цана дагаворная. Т. (8-0176) 735398, (8-029) 7733450.

• Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

• Рэно Вэлсаціс, 2003 г.в, хамелеон,2,2 dci, 78 000 000 руб. Т. (8-029) 7046266.*

• Сітраэн-Ксара па запчастках, 1,8Б. Т. (8-029) 6653394.*

• ФВ-Б 2,1987 г.в, 1,6Д, універсал, бардо, на ходу, добры стан. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 3463652.

• ФВ Т2, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*

• Фіят-Брава, 2000 г.в, 1,9Д. Т. (8-029) 3801916.

• Фіят-Дукота, 1994 г. в., 1.9 TD, белы, грузавы, 44 000 000 руб. Мядзел.Т. (8-029) 3650053.*

• ФВ-Пола, 1991 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 6647741.*

• Хундай-Лантра, 1993 г.в, 1,5 газ-бензін, нядорага. Т. (8-029) 5062324.

• З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*

• Запчасткі да ЗІЛ-130. Т. (8-029) 3999382.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Рухавік, каробку, тарпеду да Пікасо. Т. (8-033) 6653394.*

## КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

• Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 9/56. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7685126.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 3 паверх. Т. (8-033) 6639658.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы на Зеніце. 51,1/16,4/13,3/8,9. Першы паверх 5-павярховага панэльнага дома. Т. (8-029) 2572419.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 20165, (8-025) 7417101.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ф. Скарыны, 5/5 пав., 55,9 кв. м, с/в раздзельны, прасторныя кухня і ванна, дому 10 гадоў, сучасная пларіроўка, пакоі ізаляваныя, тэлефон, інтэрнэт, лічыльнікі. Т. МТС (8-029) 7663243.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, атынкаваны, падвал, аглядная яма. Т. (8-029) 6068706.*

• Дом драўляны на вываз, 8х5 м; прыбудова, 5х5 м. Танна. Смаргонскі р-н. Т. (8-029) 1142181, (8-029) 1384161.*

• Дом з участкам у в. Насілава. Т (8-029) 2697533.*

• Дом з выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-029) 5358791.

• Дом недабудаваны ў Маладзечне, 130 кв. м, 0,15, часовая пабудова, сад. Магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.

• Дом у аг. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6026288.*

• Дом ў в. Асанава Маладзечанскага р-на, 104 кв.м, 25 сотак, газ, 1 паверх, гаспадарчыя пабудовы, гараж, Т. (8-029) 6103459.*

• Дом у в. Клыні Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 46489, (8-01771) 20099.

• Дом у в. Плікавічы, 5 км ад Вілейкі, 40 кв. м. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, калодзеж. Т. МТС (8-029) 2716495.

• Дом у в. Снежкава, 70% гатоўнасці, 25 сотак, побач лес. Т. МТС (8-029) 5865055.*

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*

• Дом у Маладзечне, 70/53/30, газ, выгоды, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Палову дома ў Вілейцы ў р-не Незалежнасці, ёсць усе выгоды. Т. (8-033) 6368364.*

• Участак 10 сотак у в. Снежкава, падмурак пад дом 8х8 м, падмурак пад лазню 4х9 м. Можна з лазняй 4х9 м. Т. МТС (8-029) 5865055.*

• Участак 15 сотак у в. Снежкава Вілейскага р-на. Прыватызаваны, закансерваваны. Т. МТС (8-029) 5063882.

• Участак для будаўніцтва дома ў Вілейцы па вул. Жалігоўская, 15 сотак, прыватызаваны, 4618.

## КУПЛЮ

• 1,5 ці 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Апошні паверх не прапаноўваць. Т. (8-029) 8529931.

## ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 1649642.

• 3-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна з мэбляй. Т. (8-029) 8500258.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*

• Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, права. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блокхаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Аграсядзіба "У Мароза" запрашае на адпачынак, банкеты. Т. (8-029) 6650884.*

• Аддзелка дамоў сайдынгам. Вадасцёкавыя сістэмы (пластык). Іншыя аддзелачныя работы. Магчыма растэрміноўка. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1022232.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Андулін. Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш**. АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. Вэлком (8-029) 1287878, (8-029) 7860317.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўцы матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Шафаловіч Д.С. УНП 690534457. Т. (8-033) 3129753, (8-029) 9814660.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*

• Добраўпарадкаванне тэрыторыі, месцаў пахаванняў. ІП Пякарскі А.П. УНП 691897647. Т. (8-029) 2779204.*

• Дэмантаж (хлявы, перагародкі, сцяжкі). Дробны рамонт. Вываз смецця (бытавое, будаўнічае). Паслугі грузчыка. Пакос травы. Выезд на раён. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Разныя вырабы: vk.com/album 297080687_229930164. УНП КА 8273795. Т. (8-025) 5080428. *

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт **СТАРТЭРАЎ І ГЕНЕРАТАРАЎ** у Вілейцы. ППТУП "Лаўтэх" УНП 690298046. Т. (8-01771) 56379, (8-029) 5725645, (8-029) 3725645.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.







**Тэлефонныя коды**

| гарадоў рэгіёну: | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.**
**Астравец** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.**
**Ашмяны** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.**
**Валожын** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.**
**Вілейка** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.**
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.**
**Мядзел** вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.**
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.**

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Магчыма з элементамі халоднай коўкі. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **РЭСТАЎРАЦЫЯ СТАРЫХ ПАБУДОЎ**. Дэфектоўка і разлік. ІП Радзько М.С. УНП 691180180. Т. (8-029) 9991011, (8-025) 5333448.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА, ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Устаноўка і рэстаўрацыя помнікаў. ІП Сташкевіч В.А. УНП 691179796. Т. (8-029) 2421560.

• Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• Электрык. Мантаж. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП “Ліцераль”. УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

• Планшэт “Самсунг” у выдатным стане. Т. МТС (8-029) 8156016.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза 1 год (пакрытая), козачка 7 месяцаў. Т. (8-029) 7006777.

• Каза дойная. Т. (8-029) 3524490.

• Кныр в’етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*

• Парасяты в’етнамскія, прышчэпленыя. Т. (8-029) 5768755.*

• Парасяты в’етнамскія. Т. (8-029) 2574268.

• Пчаліныя вуллі. Танна. Т.(8-0176) 763243, Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

• Цялушка пакрытая, кураняты дамашнія ад курэй-нясушак. Т. Вэлком (8-029) 9772795.

**Іншае**

• Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*

• Кацёл-печ у лазню. Т. (8-025) 6449793.*

• **КОЛЬЦЫ ДЛЯ КАЛОДЗЕЖАЎ, КАНАЛІЗАЦЫІ**, векі, днішча. Дыяметр 0,9 м, 1,0 м, 1,5 м. Усе вырабы арміраваныя. Цэны нізкія. ІП Харэўка М.І. УНП 691178151. Т. (8-033) 3014018.

• Мука з трыцікале фасаваная ў мяшках. ТАА “Сласцібург” УНП 691895710. Т. (8-044) 5415191.*

• Супрацьпролежневы артапедычны матрац Broniger. Т. (8-029) 5506516.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Самавары, мэблю, манеты, ікону, ордэн, статуэткі і інш. Т. МТС (8-029) 7764214.*

• Манеты. Т. (8-029) 6564123.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. “Беларуская Энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Апілкі ў вялікіх аб’ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

• Батарэі чыгунныя, б/к. Т. (8-029) 6319537.*

• **БОЧКУ ПЛАСТЫКАВУЮ** аб’ёмам не менш за 250 л. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу “Памяць”, розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася і аленя. Т. Вэлком (8-029) 9834570, МТС (8-033) 6668053.*

• Янтар (бусы, камяні). Т. Вэлком (8-029) 9027800, МТС (8-029) 2983035.*

## ІНШАЕ

• У суд Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці паступіла заява аб аб’яўленні памерлым Багданёнка Андрэя Іосіфавіча, 23 мая 1977 года нараджэння, ураджэнца в. Куклаўшчына Маладзечанскага раёна, які жыў па адрасе: г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 121, 65. Просьба да ўсіх грамадзян і юрыдычных асоб, якія маюць звесткі аб гэтым грамадзяніне, паведаміць суду на працягу двух месяцаў з моманту публікацыі аб’явы па адрасе: г. Маладзечна, вул. Партызанская, 5, ці па тэл. (8-0176) 770531.

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Батарэі чыгунныя, новыя. Т. МТС (8-033) 3465371.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м п., вугалок 40 м п., труба профільная 300 м п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Сетка-рабіца, ацынкаваная, вышыня 1,2-1,8 м. Слупкі металічныя. Дапамагу з дастаўкай і ўстаноўкай. Т. (8-029) 7537679.*

• Слупкі, 2 м - 50 шт., вароты + брамка, сетка-рабіца, ацынкаваная. Т. (8-029) 7774788.*

• Цэмент М 500 Д 0, мяхі па 25 кг. Маладзечна. Т. (8-029) 7665391.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбакапалка да трактароў Т-25, Т-40, МТЗ. Маладзечна. Т. (8-044) 7192064.

• Прычэп да мотаблока. Т. (8-029) 8582578.*

• Трактар самаробны, дызель. Т. (8-044) 4703638.

• Калёсы (телега) на гумовым ходзе. Маладзечна. Т. (8-029) 7651373.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР” – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Паддоны б/к. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Мотаблок ці міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6700380.*

• Мотаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• Акустычныя калонкі, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Кладка, дах, бетонныя работы, фасадныя работы. Т. (8-029) 8898127.*

• Аддзелачніка. Усе віды ўнутранай адзелкі, акрамя пліткі. Т. (8-029) 3605806.

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Цырульнік мужчынскі, жаночы, універсал на пастаянную работу. ТДА “Майстар Люкс”, УНП 690632740. Т. (8-029) 6674071.*

